

Нядаўна партыйна - ўрадавая делегацыя СССР на чале з М. Хрушчовым наведала Албанію і Венгрыю.
На нашым здымку Мікіта Хрушчоў сярод членаў албанскага сельскагаспадарчага кааператыва «Дарога Леніна».

Фотарэпартаж са свету

## Як лётаць, не пакідаючы зямлі

Канадскія авіялініі Канадзіан Пацыфік Аірлінэс маюць спецыяльныя абсталяванні, якія дазваляюць на вучобу пілотаў на зямлі. Гэты «фальшывы» самалёт мае поўнасцю абсталяваную кабіну для экіпажу, у якой будучы пілот адчувае сябе так, як быццам бы сапраўды быў у паветры. Пры дапамозе спецыяльных прылад інструктар можа выклікаць катастрофу аж да запалення машыны. Мантаж такога абсталявання працягваўся ча... тыдні. Нягледзячы на вельмі вялікія кошты. «фальшывы» самалёт усё ж дзешавейшы і зберагае больш часу, чым ужыванне праўдзівых машын для вучэбных мэт.



Інструктар старасцца вытлумачыць ...ардэсе складаныя абводы ста ўзмацняльнікаў.

Фота — ЦАФ

## ДНІ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ ў Румыніі

**У гэтым годзе па плану развіцця культурнага супрацоўніцтва паміж Савецкім Саюзам і Румынскай Народнай Рэспублікай праводзяцца дні беларускай культуры ў Румыніі і дні румынскай культуры ў Беларусі.**

**Адкрыццё дзён беларускай культуры, якія пачаліся 8 чэрвеня, былі адзначаны ўрачыстым пасяджэннем у Бухарэсце. У абласных і раённых цэнтрах, сельскіх мясцовасцях адбываюцца вечары, прысвечаныя культуры Савецкай Беларусі.**

**З Мінска адпраўлена выстаўка твораў мастакоў, якую намечана паказаць у Бухарэсце і ў іншых месцах краіны.**

**У Беларусі дні румынскай культуры адбудуцца ў жніўні.**



**Начальнік вучобы — Гэрбэрт Голік - Кэнон — у часе «палёту» з пілотам палярнай трасы Канадзіан Пацыфік Аірлінэс, капітанам Ямэс Кюрэ.**




**Каб усё выдавалася больш праўдзівым, у кабіне змешчан нават сігнал «У палёце».**

Фота — ЦАФ

# „ЗЯМЛЯ і ВОЛЬНАСЦЬ"

Буржуазныя рэвалюцыі маюць незвычайныя эпілогі. Сын мексіканскага рэвалюцыянера Эмельяна Запаты, які ў 1910 годзе, змагаючыся за інтарэсы сялян, унёс вядомы лозунг: «Зямля і вольнасць», — Ніколас Запата належыць сёння да найбагацейшых плантатараў гэтай краіны. Нягледзячы на тое, лозунг сялянскай рэформы і надзялення сялян зямлёю не перастаў быць актуальным і праз 50 год ва ўсіх дваццаці краінах Лацінскай Амерыкі. Асабліва гучным і небяспечным стаў ён для групы памешчыкаў цяпер, пасля перамогі рэвалюцыі на Кубе і пасля падпісання ў мінулым тыдні Фідэлем Кастра дэкрэта аб сельскагаспадарчай рэформе.

Адзін н'юйоркскі агент, прабываючы на цукровай біржы ў Гаване, на вестку аб падпісаным дэкрэце выкрыкнуў:

— Гэта значыць, што вялікія зямельныя гаспадаркі будуць разбіты ў цэлай Лацінскай Амерыцы!

І сапраўды. Яшчэ зусім нядаўна рэвалюцыйны рух у краінах Лацінскай Амерыкі меў альбо характар мясцовы і хутка задушваўся, альбо ішоў па дарозе кабінетных пераваротаў. Але, за выключэннем Мексікі істотных грамадскіх змен гэты рух не прынёс. Аднак у апошні час эксплуатацыя ў краінах гэтага кантынента значна паглыбілася. Да мясцовых плантатараў далучыліся канцэрны ЗША (фруктовыя, нафтавыя і стальныя).

Насельніцтва Лацінскай Амерыкі, якое налічвае 190 мільёнаў, жыве галоўным чынам за кошт сельскай гаспадаркі. Прадукцыйнасць сельскагаспадарчай вытворчасці раўняецца аднак толькі 1/5 прадукцыйнасці ў Злучаных Штатах. Прадукцыя харчавання з цяжкасцю паспявае за ростам насельніцтва, і большасць з гэтых 20 краін вымушана імпартаваць харчаванне.




У Венесуэле, дзе ў апошні час наглядаюцца сур'ёзныя палітычныя змены, тры працэнты зямельных уладальнікаў маюць ва ўласнасці 90 прац. зямлі; у Чылі — два прац. памешчыкаў маюць у сваіх руках 52 прац. зямлі. Палова ўпраўнай зямлі Бразіліі належыць да ўладальнікаў, лічба якіх складае 2 прац. насельніцтва краіны. На Кубе да апошніх месяцаў таксама палова ўпраўнай зямлі належала памешчыкам. Гэтыя лічбы найлепш характарызуюць грамадскую сітуацыю краін Паўднёвай і Сярэдняй Амерыкі. Гэтыя краіны не маюць таксама вялікай карысці з натуральных багаццяў. Венесуэла апрача таго, што з'яўляецца найбольшым на свеце экспарцёрам нафты (150 мільёнаў штогод), большую частку прыбытку аддае амерыканскім канцэрнам. Ва ўмовах такой эксплуатацыі зусім зразумела тая падтрымка, якую аказалі кубінскія сяляне свайму кіраўніку Фідэлю Кастра. Кубінская рэвалюцыя і пазнейшыя падзеі ў Венесуэле маюць беспасрэдны ўплыў на сённяшні рэвалюцыйны рух у шэрагу іншых краін Лацінскай Амерыкі.

Амерыканскі карэспандэнт Морыс Розенберг пісаў некалькі дзён таму назад: «Палітычны неспакой і гаспадарчыя непарадкі з'яўляюцца грунтам пашыраючыхся разрух у Нікарагуа». І хоць прэзідэнт гэтай краіны Самоза абвясціў, што «здраднікі і наёмнікі» будуць ліквідаваны, усё ж узброеная барацьба паўстанцаў пашыраецца і сёння вядзецца ўжо на трох франтах. Кіраўнік паўстанцаў др. Энрыка Лакаё Фарфан запэўнівае, што ўрад Самозы будзе звергнуты.

У сучасны момант Нікарагуа не з'яўляецца адзіным месцам барацьбы на тэрыторыі Лацінскай Амерыкі. У Гандурасе ўрад ужо доўгі час змагаецца з бандамі мяцежнікаў у глыбіні краіны і тэрарыстычнымі замахамі ў сталіцы. У Паўднёвай Амерыцы аргентынскі ўрад аб'явіў у мінулым тыдні, што выкрыў спіс камуністаў і перанітаў, якія мелі намер акунуць краіну «у хаос і анархію». У Бразіліі сілу ўрада падточваюць усё новыя забастоўкі. У Парагваі дыктатар Альфрэда Строснэр аб'явіў выключнае становішча пасля дэманстрацыі, пратэстуючай супраць падвышкі цэн. У Перу ўрад загадаў арыштаваць пяць кіраўнікоў партыі Народнай акцыі, якая знаходзіцца ў апазіцыі. Нарэшце ў Эквадоры студэнты змагаюцца з паліцыяй, дабіваючыся сваіх праў.

— Карта Лацінскай Амерыкі, — пісаў той самы Марыс Розенберг, — пакрыта вогнішчам напружанасці і існуе небяспека, што ў будучыні будзе іх яшчэ больш.

Прарочыя словы, але што ж тут можна парадзіць, калі для ўсіх сялян і развіваючагася рабочага класа лозунг «зямля і вольнасць» неразрыўна звязаны з магчымасцю людскога жыцця.

Уладзімір ЛАЗІНСКІ

 



Падляшская хата ў Вінным — Пасвентным, Сямяціцкага павета.
Фота — В. Пашкоўскі

# ПАДЛЯШСКАЯ ХАТА

«Падляшская хата, эканомны план пабудовы яе пячэй, арыгінальная канструкцыя і ўлажэнне формы з выразнай дбайнасцю аб выгадзе і прыгажосці,—усё гэта дазваляе залічыць гэты, самы скромны з усіх, тып хаты да самых каштоўных твораў народнай архітэктуры».

Гэты надпіс відаць пры ўваходзе ў залу беластоцкага музея (будынак гарадской Ратушы), дзе 26 мая г. г. арганізавана выстаўка помнікаў драўлянага народнага будаўніцтва Беласточчыны.

На шматлікіх стэндах у выставачных габлётах фатаздымкі, макеты, кнігі...

У выставачнай зале мы сустрэлі мгр. Вацлава Каханоўскага, супрацоўніка Ваяводскага кансерватара забытковых будоў.

— Скажыце, калі ласка, як багата захавалася забытковых будоў з дрэва на тэрыторыі, дзе жывуць беларусы, і аб чым гэтыя помнікі культуры гавораць?

— Нажаль, дрэва - матэрыял нетрывалы. Агонь і час — яго самыя злосныя ворагі. Але да нашых дзён дайшло шмат цікавага і паказальнага. У глухіх мясцінах стаяць каплічкі, царквы і касцёлы, ветракі і вадзяныя млыны, пабудаваныя з дрэва. У мінулым прыгонныя цесляры — майстры патрапілі пабудаваць з дрэва нават шматпавярховыя будовы, як званіцы, царквы, жыллёвыя дамы. З-пад сякеры і гэбля народных умельцаў паўсгавалі арыгінальныя і лёгкія формы з густам упрыгожаныя разьбой па дрэве.

Асабліва цікавая архітэктура падляшскай хаты. Яе тып сведчыць аб сутыкненні двух плыняў: мазурскай і беларускай. Форма яе сведчыць аб мазурскім уплыве, а ўсе ўпрыгожанні, як разьба над вокнамі, шалёўка вуглоў, шчытоў, дзвярэй і г. д. — беларускія. Чатырохспадовы саламяны дах — гэта таксама рыса беларуская. Зрэшты, шмат аб чым пакуль што цяжка гаварыць, бо многа чаго яшчэ не даследавана. Толькі цяпер справамі народнага будаўніцтва Беласточчыны заняліся навуковыя супрацоўнікі Варшаўскай палітэхнікі, у прыватнасці праф. докт. І. Тлочэк.

— Чаго новага трэба спадзявацца ў галіне аховы забытковых будоў на тэрыторыі Беласточчыны ў бліжэйшы час?

— Перш за ўсё ў недалёкім будучым плануецца арганізаваць скансэн (г. зн. спецыяльнае месца, дзе будуць дэманстравацца забытковыя пабудовы нармальнай велічыні) у Звярынцу (Беласток). Падляшскія забытковыя хаты будуць займаць там цэнтральнае месца.

— З чым Вы б хацелі звярнуцца да нашых чытачоў?

— Перад усім з заклікам, каб беражліва ахоўвалі ўсе забытковыя будовы. Імена яны — наш каштоўны скарб, які сведчыць аб нашай багатай культуры.

Размаўляў **М. ГАЙДУК**



Драўляная капліčка ў Мілейчыцах Бельскага павета.
Фота — В. Пашкоўскі

Карэспандэнцыя з Мінска

# ТАМ, ДЗЕ НАРАДЗІЎСЯ ПАЭТ

Мінск канца мінулага стагоддзя. Вуліца Аляксандраўская. Аднапавярховыя драўляныя домікі, сям - там невялікія камянічкі.

У адным з гэтых дамоў 27 лістапада (ст. ст.) 1891 года ў сям'і вядомага беларускага этнографа Адама Багдановіча нарадзіўся сын, якога назвалі Максімам. Нядоўгім быў ягоны жыццёвы шлях, але зерне, кінутае ім ва ўрадлівую нацыянальную глебу, дало добрыя парасткі, імя яго жыве ў сэрцах беларусаў. «Зорка Венера», «Слуцкія ткачыхі», «Мяжы», «Пагоня», «Страцім - Лебедзь» і іншыя вершы ўвайшлі ў скарбніцу беларускай літаратуры, прыводзяць у захапленне высокім майстэрствам, дасканаласцю думкі, выразнасцю мовы.

Прамінула больш паловы стагоддзя з той пары. Змяніў свой воблік былы губерански горад Мінск, непазнавальна змянілася і Аляксандраўская вуліца. Яшчэ задоўга да Вялікай Айчыннай вайны яна была названа вуліцай Максіма Горкага — імем сябра і сваяка сям'і Багдановічаў. На месцы былых драўляных хацінак узняліся шматпавярховыя гмахі камяніц, па вуліцы праносяцца са звонам трамваі. На месцы дома, у якім нарадзіўся Максім Багдановіч, узвышаецца шматпавярховы цагляны будынак.

Аднак, па - ранейшаму дорага ўспамінам пра любімага паэта месца, дзе ён нарадзіўся. Цяпер усе, хто праходзіць па вуліцы, спыняюцца ля гэтага дома і чытаюць мемарыяльную дошку, прымацаваную да сцяны. На ёй выбіты і з'зяюць словы: «У гэтым доме 10 снежня (27 лістапада ст. ст.) 1891 г. нарадзіўся беларускі паэт Максім Багдановіч».

А. С.




# ПРАВАКАТАР

З гісторыі камсамольцаў Беласточчыны

9)

Паліцыя ўсяляк старалася падарваць знутры адзінства партыі і камсамола. Яна засылала сваіх агентаў у асобныя арганізацыі, камітэты партыі і камсамола, якіх вербавала рознымі спосабамі з ліку малаўстойлівых у палітычных і маральных адносінах членаў Камуністычнай партыі і камсамола. У цяжкіх умовах канспірацыі барацьба з правакатарамі была неабходнай для захавання адзінства і баяздольнасці партыйных і камсамольскіх арганізацый. Камсамол заўсёды быў пільным, кантраляваў дзейнасць сваіх членаў, асабліва работнікаў кіруючага апарату, і пры паяўленні абгрунтаваных падазрэнняў неадкладна адхіляў некаторых асоб ад работы, а найбольш небяспечных выкрываў і абясшкоджваў.

Самым буйным правакатарам быў Стральчук. У камсамол Заходняй Беларусі ён пранік у 1928 годзе. Да 1932 года Стральчук, які ўмеў хітра замаскіравацца, працаваў у адной з мясцовых арганізацый Беластоцкай акругі. У 1932 годзе яму ўдалося ўцерціся ў давер'е некаторых работнікаў акругкома камсамола. Ён быў узят для сувязі з сельскімі камсамольскімі арганізацыямі. З восені 1932 да снежня 1934 года Стральчук працаваў інструктарам ЦК КСМЗБ. З прычыны канспіратыўных умоў ён не мог высачыць асноўныя апорныя пункты ЦК КСМЗБ і Кампартыі Заходняй Беларусі, хоць час - ад-часу сустракаўся з членамі сакратарыята ЦК КСМЗБ. Усё ж яму ўдалося даведацца пра некаторыя адрасы падпольных і явачных кватэр у Вільні.

У канцы 1934 года санацыйныя ўлады вырашылі правесці масавы разгром камсамола. Пры дапамозе Стральчука паліцэйскім шпікам удалося ў лістападзе трапіць на след члена сакратарыята ЦК КСМЗБ Крэмера («Тадзека»). Яны без суда забілі яго. Гэта быў адчувальны ўдар па камсамолу Заходняй Беларусі.

Каб не быць захопленым знянацку, ЦК КСМЗБ устанавіў у нізавых арганізацыях запасныя яўкі, вылучыў новы склад сакратарыята ЦК КСМ, які пераехаў з Варшавы ў Вільню. Для разгрому ЦК КСМ Заходняй Беларусі і знішчэння базы яго сакратарыята ў Вільні паліцыя выкарыстала Стральчука. Небяспека для камсамола была тым больш велізарнай, што той яшчэ не быў выкрыт як правакатар і працаваў інструктарам ЦК КСМЗБ на Брэсцкай акрузе.

У адносінах да Стральчука былі толькі падазрэнні і не было ніякіх доказаў.

Аднак паліцэйскі план разгрому ЦК КСМЗБ не ўдаўся дзякуючы пільнасці членаў сакратарыята. Падзеі развіваліся маланкава.

Як толькі ў Вільнюс пераехаў сакратарыят ЦК КСМЗБ, зусім нечакана ў пачатку студзеня 1935 года прыбыў туды і Стральчук. На адной з кватэр ён выпадкова сустрэў сакратара ЦК. Дакучлівасць і нахабнасць паказаліся таму падазронымі. Ён прадбачліва пасляшаўся пакінуць кватэру. Праз гадзіну паліцыя пры непасрэдным удзеле Стральчука пачала арышты. Але ёй не ўдалося схапіць ні аднаго з работнікаў ЦК КСМ. Былі арыштаваны 15 чалавек — гаспадары кватэр і явак. Прычым большасць кватэр задоўга да пачатку арыштаў сакратарыятам ЦК КСМЗБ не выкарыстоўвалася.

Сакратарыят ЦК КСМЗБ неадкладна пераехаў у Беласток. Ён адразу ж папярэдзіў усе арганізацыі аб тым, што Стральчук правакатар. Аднак, нягледзячы на гэта, паліцыя правяла арышты камсамольцаў і камуністаў Брэсцкай, Слонімскай і Навагрудскай акруг. І паколькі ёй не ўдалося схапіць нікога з цэнтральнага і акруговага камсамольскага актыву, яна пачала шнырыць разам са Стральчуком па вуліцах Вільнюса, а затым Беластока ў надзеі сустрэць на вуліцы хоць каго-небудзь з работнікаў ЦК КСМЗБ, знаёмых яму. У час аднаго з такіх абходаў у Беластоку летам 1935 года паліцыя арыштавала члена ЦК КСМЗБ, сакратара Беластоцкага акруговага камсамола Р. Залашанскую («Ванду»). Гэты выпадак быў сур'ёзным папярэджаннем. Сакратарыят ЦК КСМЗБ вымушан быў пакінуць Беласток і зноў пераехаць у Вільнюс, бо там было больш магчымасцей для работы, ды і сам горад большы за Беласток.

Правакатар Стральчук не толькі выдаваў у рукі паліцыі камуністаў і камсамольцаў, але і прымаў удзел у іх катаванні. Так, у кастрычніку 1935 года ён з тайнымі агентамі кобрынскай ахранкі па-зверску катаваў арыштаванага былога сакратара ЦК КСМЗБ. Перад гэтым Стральчук удзельнічаў у крывавых катаваннях камсамольцаў Брэсцкай і Слонімскай акруг.

По прапанове ЦК КСМЗБ бюро ЦК КПЗБ прыняло рашэнне ліквідаваць правакатара. Арганізацыя гэтай надзвычай адказнай задачы была даручана

(Працяг на стар. 4).



© PDF: Kamunikat.org 2022 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2022

# ПРАВАКАТАР

Працяг са стар. 3.

члену сакратарыята ЦК КСМЗБ Мікалаю Дворнікаву («Герасіму»). Непасрэдным выканаўцам назначылі камсамольца Сяргея Прытыцкага. Месцам расправы выбралі Віленскі акруговы суд, дзе павінна была слухацца справа Р. Залашанскай і іншых камсамольцаў і камуністаў, арыштаваных па ўказцы Стральчука. Вырашылі правесці расправу іменна там яшчэ і таму, што правакатар нідзе ў іншым месцы не паяўляўся без паліцэйскай аховы.

План быў распрацаван да найдрабнейшых дэталей. Ля запаснога выхаду з памяшкання суда, праз які павінен быў выйсці Сяргей Прытыцкі пасля выканання задання, былі пастаўлены камсамольцы. Ім ставілася ў абавязак ахова Прытыцкага ад арышту і праследвання паліцыі.

27 студзеня 1936 года камсамолец Прытыцкі прыйшоў у залу пасяджэнняў Віленскага акруговага суда і сеў сярод наведвальнікаў. Калі Стральчук пачаў даваць свае гнусныя паказанні, Прытыцкі ўстаў, накіраваў на яго два пісталеты, гучна выкрыкнуўшы: «Сабаку — сабачая смерць!», некалькі разоў выстраліў у правакатара. Стральчук упаў.

Паліцыя разгубілася. Прытыцкі, выкарыстаўшы гэта, накіраваўся да выхаду. Калі ён пабег уніз па лесвіцы, разлічваючы выскачыць на вуліцу, шпікі Дайноўскі і Бучкоўскі адкрылі па ім страляніну. Атрымаўшы цяжкія раненні, С. Прытыцкі ўпаў на лесвічную клетку. Тут жа ён быў арыштаваны. Надзвычайны суд прыгаварыў яго да пакарання смерцю.

Камуністы і камсамольцы разгарнулі масавую барацьбу ў абарону Сяргея Прытыцкага. Праводзіліся мітынгі пратэсту, сходы, масоўкі. Арганізоўваліся забастоўкі, дэманстрацыі з патрабаваннем адмяніць яму смяротнае пакаранне. Фашысцкі ўрад вымушан быў змяніць пакаранне смерцю турэмным зняволеннем.

Неўзабаве Стральчук ачуняў ад атрыманых ран, але адкрыта выступаць супраць камуністаў і камсамольцаў больш не адважыўся. І толькі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, працуючы ў гітлераўскім гестапа, у Беластоку, ён жорстка распраўляўся з рабочымі, сялянамі, інтэлігенцыяй, якія змагаліся супраць фашыстаў.

Знішчэнне выкрытых правакатараў было свяшчэнным абавязкам камсамольцаў.

# ХТО ВІНАВАТЫ

На III З'ездзе ПАРП быў зацверджан план гаспадарчага развіцця краіны на бліжэйшыя 7 гадоў. Поспех пастаўленых заданняў будзе магчымым толькі пры актыўнай працы ўсяго грамадства. Але развіваць грамадскую ініцыятыву, мабілізаваць масы на выкананне пастаўленых задач павінны, галоўным чынам, рады нарадовыя — органы народнай улады.

Перш за ўсё яны павінны дакладна праводзіць палітыку падатковую і крэдытовую. Асабліва яны павінны сачыць, каб сродкі, прызначаныя дзяржавай на павышэнне прадукцыі, траплялі да найбольш патрабуючых, каб былі ўжыты на належныя мэты.

Трэба вельмі ўважліва разглядаць патрэбы ільгот (як у падатку, так і ў абавязковых пастаўках збожжа і мяса). Ільготы павінны атрымліваць толькі тыя сяляне, гаспадарка якіх па аб'ектыўных прычынах панесла якія-небудзь страты.

Аднак грамадскія рады даволі часта робяць ільготы заможным гаспадарам, не вельмі ўнікаючы, ці гэтыя ільготы ім сапраўды належаць.

...Да старшыні ГРН Рыгалоўка, грам. Яна Ермака, прыйшло прашэнне ад грам. Адама Марцінкевіча з вёскі Ячнікі. Прасіў, каб зрабілі яму ільготы ў падатку. Залегласць у суме 2.350 зл. была надзвычай хутка ліквідавана. Каб замацаваць такое рашэнне, грам. Марцінкевіч асабіста прыязджаў з паданнем у ПРН у Дуброве. Удалося яму атрымаць ільготы і ў павеце.

І ўсё было б добра, каб у той вёсцы не было малазямельных сялян, якія, даведаўшыся аб такой махінацыі, не вытрымалі і ў лісце ў павет апісалі ўсё па праўдзе.

Высветлілася, што грам. Марцінкевіч мае вялікую добраўпарадкаваную гаспадарку. Гадаваў коней і ў той час, калі пісаў прашэнне аб ільгоце, за 40 з лішнім тысяч прадаў жарабца. Хапіла тых грошай, каб заплаціць 3 тысячы ксёндзу (які прымаў удзел у пахаванні бацькі Марцінкевіча) хапіла і на іншыя выдаткі.

Толькі не на падатак.

Ды і навошта ж плаціць падатак, калі ёсць такі «добры» старшыня ГРН?! А грошыкі прыгадзяцца і на аплату парабка, якога гаспадар трымае ад пачатку народнай улады.

Аднак уся гэтая камбінацыя скончылася тым, што грам. Марцінкевіч быў вымушан заплаціць належнасці дзяржаве, а грам. Ермак атрымаў вымову па службовай лініі.

Вёска Новы Ліпск (належыць да ГРН у Ліпску) жыве надзвычай ціхім і спакойным жыццём. Ёсць людзі бедныя, ёсць трохі замажнейшыя, а ёсць і багатыя.

Ёсць у гэтай вёсцы грам. Трахімовіч, які жыве і гаспадарыць разам са сваім цесцем. І хоць гаспадарка іх налічвае каля 40 га зямлі, у ГРН запісана толькі 10 га. Вядома, так лягчэй і падаткі аплачваць, і аб ільготах не сорамна прасіць.

І сапраўды, у 1958 годзе ён піша прашэнне аб ільготах у падатку і атрымоўвае іх.

Ці старшыня ГРН у Ліпску грам. Віцяжынскі ведаў аб сапраўдным стане гаспадаркі Трахімовіча? Напэўна, так, бо сам паходзіць з той мясцовасці і дасканала ведае сваіх сялян.

Ведаў ён таксама, у кожным разе павінен быў ведаць, што Трахімовіч арандаваў 9 га лугоў, а ўмову меў толькі на 3 га (і толькі за 3 га аплачваў). Але Трахімовіч меў дастатковую колькасць сваіх лугоў. Таму арандаваных ён сам не апрацоўваў, а штогод прадаваў траву «на пню» для сялян сваёй вёскі, якія не мелі ўласных лугоў, а сена патрабавалі. «Дабрадушны» Трахімовіч не браў грошай ад сваіх пакупнікоў, а замест гэтага выкарыстоўваў іх рабочую сілу ў сваёй вялікай гаспадарцы. Такім чынам Трахімовіч некалькі год спекуляваў дзяржаўнай маёмасцю, маючы з гэтага вялікія карысці.

Следам Трахімовіча прабавалі ісці і іншыя сяляне.

І толькі ў красавіку гэтага года, дзякуючы інтэрвенцыям малазямельных сялян навакольных вёсак, якія не маглі больш глядзець на такую несправядлівасць, павятовыя ўлады звярнулі на гэта ўвагу. Ральнічы аддзел ПРН пасля даследвання справы выкрыў больш 200 га, якія да гэтага часу ўтойваліся.

Ясна, што вінавата тут перш за ўсё грамадская Рада ў Ліпску, на чале са старшынёю грам. Віцяжынскім, якая не абараняе належна інтарэсаў малазямельных і сярэднезямельных сялян.

А дзе ж была ПРН? Ці не была падобная з'ява вынікам браку кантролю і інструктажу з боку ПРН?

Праўда, супрацоўнікі ПРН у Дуброве даволі часта выязджаюць у грамадскія рады. Напрыклад, у Ліпск на працягу 1958 года выязджалі 246 разоў (за столькі дзён аплачаны камандзіроўкі). З гэтага вынікае, што амаль штодзённа працаўнік ПРН знаходзіўся ў гэтай Радзе. Што ж яны рабілі там, калі ў вёсцы, за 4 км. ад сядзібы Рады, рабіліся такія рэчы?!

Калі мы не паднімем на вышэйшы ўзровень працу мясцовых органаў народнай улады, цяжка будзе паспяхова рэалізаваць заданні, накрэсленыя III З'ездам нашай партыі.

(Д)



НАД ВОЗЕРАМ

Фота — Л. Каралеўскі

# ВЯЛІКАЯ ВАЙНА Ў НАРВЕ

Ёсць розныя прычыны, калі людзі перастаюць разумець адзін другога, аднак повад для ўсеагульнай сваркі ў Нарве і аколіцы па меншай меры недарэчны.

Справа пачалася яшчэ ў красавіку гэтага года, калі свяшчэннаслужыцель Нараўскай царквы гр. Конах быў справядліва перанесены ў другія мясціны. На ўроках рэлігіі ў школе ён парушаў правілы сацыялістычнай педагогікі і прымяняў фізічныя пакаранні вучняў. На скаргу пашкадаваных супроць вышэй названага царкоўнаслужыцеля былі прыняты адпаведныя меры, згодныя з нашым заканадаўствам.

На яго месца быў прысланы новы свяшчэннаслужыцель. Ён, аднак, не спадабаўся частцы насельніцтва (мабыць адпаведна падрыхтаванай гр. Конахам) і паміж староннікамі гр. Конаха і новага царкоўнаслужыцеля разгарэлася цэлая вайна. Прыхільнікі аднаго і другога ператварыліся ў істот, якія перасталі разумець чалавечую мову. Палова насельніцтва перасварылася паміж сабой. Быў і такі выпадак, калі частка жыхароў Нарвы арганізавала напад на плебанію, парушаючы гэтым самым спакой другіх жыхароў. Віноўныя справядліва былі пакараны.

Аднак на гэтым справа не закончылася. Адзін і другі лагер складае грошы і шле дэлегацыі ў Варшаву.

Ды і за што ідзе «вайна» — за тое, якога царкоўнаслужыцеля ўтрымоўваць. Мне здаецца, што царкоўнаслужыцелі маюць адну прыкмету: надта любяць грошы.

Дык ці ж варта грамадзянам Нарвы і аколіц лаяцца з-за такіх благіх спраў?! Лепш выкарыстаць час, грошы і сілы для другіх, больш карысных, для грамадства мэт.

П. ПАДБЕЛЬСКІ

# НАДЗЯ БУДЗЕ настаўніцай

Бельск. У Педагагічным ліцэі ўрачыстыя дні. Матура. Нават самыя рухлівыя другакласнікі і першакласнікі з падставовай школы на перапынках з меншым імпэтам бегаюць па калідорах. У будынку цішыня.

На калідоры мы сустрэлі групу матурыстаў, якія толькі што выйшлі з экзаменацыйнай залы.

Надзя Ляшук кажа, што на экзамене хвалявалася толькі да часу, пакуль выцягнула экзаменацыйны білет, а потым усё пайшло добра.

— Праз некалькі дзён вы атрымаеце матуральнае пасведчанне і працу ў школе, што схіліла вас пайсці ў Педагагічны ліцэй? — звяртаемся мы да Надзі.

— З малых год жыццё маё склалася так, што маім сапраўдным домам, бацькамі і сваякамі стаў Дзяржаўны дом дзіцяці ў Белавежы і Педагагічны ліцэй у Бельску. Я не хачу выносіць прысуд сваім бацькам і сваякам, — гаворыць са слязьмі ў вачах Надзя, — за тое, што не дапамаглі мне стаць спецыялістам, забыўшы аб маім існаванні. Мной заапекавалася грамадства і дзяржава. Іменна таму я хачу аддаць свае сілы для моладзі, пры тым для вясковай моладзі, для яе несці асвету і апеку, паказваць дарогу да шчасця, каб яе дзецям не прышлося жыць так, як мне — без бацькоўскай пяшчоты і ласкі.

— Куды вы хочаце пайсці працаваць і што хацелі б выкладаць?

— Вясковая школа мне найбольш да спадобы. Хачу працаваць у Гайнаўскім павеце. Буду выкладаць сваю родную беларускую мову. Люблю спеў і гімнастыку.

Аб сваёй ахвоце выкладаць беларускую мову ў вясковых школах гавораць нам матурысткі М. Корсун, В. Несцярук, М. Лапінская.

Але вось наша размова нечакана спыняецца. Матурыстак запрашаюць у экзаменацыйную залу, каб паведаміць ім вынікі экзамену.

Старшыня экзаменацыйнай камісіі, дырэктар Ліцэя гр. Канашынскі віншуе паспяхова здаўшых з заканчэннем ліцэя. Сярод іх і наша чацвёрка.

Цёплыя бацькоўскія словы дырэктара з пажаданнямі асабістага шчасця і плённых вынікаў працы асабліва ўрачыста гучаць у прасторнай зале, дзе на сценах партрэты Адама Міцкевіча і Янкі Купалы, а на класнай дошцы нясцёртыя рашэнні алгебраічных задач. Відаць трапятках ад хвалявання рука матурысткі на гэты раз забылася сцерці з дошкі сваё апошняе рашэнне ў гэтых сценах.

А колькі задач, і не толькі па матэматыцы, прыдзецца вырашыць сённяшнім выпускніцам на ніве народнай асветы!

М. ГАЙДУК

З АГЛЯДУ МАСТАЦКІХ КАЛЕКТЫВАЎ У ГАЙНАЎЦЫ



На здымку: выступае мастацкі калектыў з Кляшчэляў.

Фота — М. Тарасевіч.

# ТАКІХ ВЫСТАВАК БОЛЬШ

На другім паверсе ў зале Чыгуначнага тэхнікума імя Я. Рабаноўскага ў Варшаве позірк школьнай моладзі прыцягвалі габлёты і рэгалы, якія іскрыліся разнакаляровымі паштоўкамі, кніжкамі і часопісамі. Было гэта ў Дні асветы, кніжкі і друку. З правага боку гурток сяброў Савецкага Саюза наладзіў выстаўку беларускіх кніжак, газет і часопісаў.

У габлётцы здалёк відаць быў герб Савецкай Беларусі і паштоўкі з відамі сталіцы Беларусі — горада Мінска. Рэгалы былі запоўнены кніжкамі беларускіх пісьменнікаў — Якуба Коласа, Янкі Купалы, Івана Мележа, зборнікамі вершаў «Рунь» і іншымі. Знаходзіліся тут і творы беларускіх пісьменнікаў у перакладзе на рускую мову. З кніжак аб Беларусі і беларускім народзе мелі вялікі поспех выданні ТППР на польскай мове:

„Białoruskie Orlęta", „Białoruś nasz najbliższy sąsiad i przyjaciel", „Konstanty Kalinowski", „Problem kształtowania się kultury białoruskiej", „Powstanie i rozwój białoruskiej państwowości".

Сярод часопісаў можна было ўбачыць: «Маладосць», «Полымя», «Камуніст Беларусі», «Беларусь», «Бярозка» і іншыя.

Школьная моладзь асабліва цікавілася сатырычным журналам «Вожык» і беларускімі газетамі. З вялікім захапленнем праглядалі ўсе кнігу «Народнае і прыкладное мастацтва Савецкай Беларусі» і атлас Беларусі.

Адначасова школьная моладзь тэхнікума слухала і знаёмілася з беларускай музыкай і беларускімі народнымі песнямі, якія праігрываліся на патэфоне. У выкананні хору беларускага радыё і дзяржаўнага беларускага аркестра былі праслуханы музычныя творы: 1) «Калгасныя дажынкі», 2) «Каліна — маліна», 3) «Тацяна», 4) «Ой, ляцелі гусанькі», 5) «Вішанька», 6) «Люд наш беларускі», 7) «Калгасная веснавая», 8) «Песня пра Заслонава», 9) «Ці свет, ці світае», 10) «Рабіна», 11) «Лявоніха», 12 «Беларуская полька» і многа іншых.

Аглядаючы выстаўку і слухаючы беларускія народныя песні і музыку, тыя вучні, якія чулі і бачылі выступленні беларускіх артыстаў у Варшаве, дзяліліся сваімі ўспамінамі аб іх. Вялі яны ажыўленую гутарку на тэму беларускага народа, яго культуры, народнай творчасці і мастацтва. Многа пачуццяў выклікаў беларускі фільм «Чырвонае лісце», на якім прысутнічала 250 вучняў тэхнікума.

Падобныя мерапрыемствы садзейнічаюць пазнанню жыцця братняга беларускага народа і яго нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зместу культуры.

Нельга, аднак, не ўспомніць аб тым, што наладжанне выстаўкі ў Чыгуначным тэхнікуме стала магчымым пры выдатнай дапамозе Варшаўскага Аддзела БГКТ.

Язэп ВАСІЛЕЎСКІ
настаўнік і апякун школьнага гуртка сяброў Савецкага Саюза

П. БАРАШАЎ і В. КІТАІН 18)




(Дакументальная аповесць, расказаная палкоўнікамі П. Н. Сахаравым і Нагаевым).

Другога — Джо — не было за што ні любіць, ні ненавідзець. Гэта быў нейкі ціхі, зламаны хлопец. Нямнагаслоўны і пахмуры, ён часта напіваўся, замыкаўся ў сабе і ўздрыгваў ад кожнага нечаканага гуку ці шораху. Фізічна ён быў слабаваты, але радыёсправу любіў з нейкай хварабітай адданасцю і часта да позняй ночы сядзеў за ключом, адбіваючы перадачу бясконцых кропак і працяжнікаў.

Ад Карла і Віктара яму дасталася часцей за ўсіх. Справа ў тым, што Віктар, пазнаёміўшы іх, катэгарычна забараніў размаўляць на англійскай, нямецкай ці французскай мовах: толькі на беларускай, каб выпадковым словам не выдаць сябе ў Саюзе.

— За кожнае слова, сказанае не на роднай мове, будзеце трыццаць раз выціскацца на руках!

Гэтай карай Віктар хацеў забіць адразу двух зайцоў: яго людзі станавіліся фізічна мацнейшымі і паступова дысцыплініравалі сваю мову. І Карл, які раўніва сачыў за дысцыплінай, па два-тры разы на дзень прымушаў Джо класціся на зямлю і выціскацца на руках.

Калі гэтыя чацвера прызвычаіліся адзін да другога, Віктар прывёў у клас яшчэ аднаго «прафесара». Той расказваў аб метадах збору шпіёнскіх вестак, аб прыёмах канспірацыі, аб Савецкай Арміі і аб парадку прысвоення воінскіх званняў у ёй, аб зарабатнай плаце афіцэрскага складу. Новы «прафесар» гаварыў толькі на рускай мове, а аб сабе сказаў, што ў дзяцінстве жыў у Харкаве, быў у тамашняй міліцыі па ўгалоўных справах, ведае Маскву, Ленінград і Мінск.

Да гэтага часу да іх на кватэру Віктар прыслаў каля ста штук пласцінак з рускімі і беларускімі песнямі і апошнія нумары часопісаў «Огонёк», «Новый мир», «Октябрь».

— Вы павінны быць у курсе справы, чытайце, вывучайце! — сказаў ён.

Адчувалася па ўсяму, што да выкіду было недалёка. І сапраўды, хутка да іх з'явіўся інструктар па парашутнай справе. Гэты высокі, хударлявы амерыканец, па словах Боба, быў вопытным спартсменам і скакаў з самалёта больш ста разоў.

— Заўтра — трэніровачны выкід! — коратка паведаміў ён, калі кожны з чацвёркі тройчы зрабіў скачок на Кауфбейранскі аэрадром.

Вечарам іх адзелі ў камбінезоны і стальныя каскі — шлёмы, выдалі кожнаму парашут і шасцідзесяцікілаграмовыя мяхі з пяском.

Самалёт падняўся з захадам сонца. Пасля паўтара гадзін палёту ў кабіне прагучала сірэна.

— Рыхтуйся! — загадаў інструктар.

Ён адчыніў дзверы і, калі сірэна завыла другі раз, крыкнуў:

— Пайшоў!

Першым скакаў Карл. За ім — Бэн. Фін ад страху адступіў ад дзвярэй. Інструктар пхнуў яго, але Фін паспеў ухапіцца за самалёт і... павіс над безданню. Сустрэчны вецер з сілаю адкінуў ногі Арцюшэўскага, рваў яго адзежу, але рукі, здавалася, намёртва ўчапіліся за самалёт і не было сіл расчапіць пальцы.

— Пайшоў, чорт! — зараве інструктар, але Фін не адпускаў пальцаў.

Амерыканец моцна ўдарыў нагой па пальцах Фіна, і той паляцеў уніз.

(Працяг у наступным нумары).



Ужо даўно заолагі звярнулі ўвагу на незвычайныя ўласцівасці лёту кажаноў (лятучых мышэй).

Як вядома, лётаюць яны толькі пасля змяркання, значыць у час, калі вельмі цяжка што - небудзь убачыць. Некаторыя кажуць: вочы ў кажана такія, што лепш бачаць уночы, чым удзень. Аднак прычына спрытнасці кажана не толькі ў яго вачах.

Прыгледзьцеся да лёту кажана і вы заўважыце, што лётае ён вельмі хутка, спрытна і пэўна мінае ўсе перашкоды. Ловячы авадоў, кажаны пралятаюць праз гушчу дрэў, не кранаючы ніводнай галінкі. Імчаць над дахамі, не закранаючы нават мала відочных уночы электрычных дратоў.

# БАЧЫЦЬ ЦІ ЧУЕ?

З кажанамі былі праведзены спецыяльныя доследы ў цёмным і зачыненым памяшканні. Зроблены ім асабліва цяжкія ўмовы лёту: расцягнута ў пакоі сапраўдную «павуціну» тоненькіх дратоў з званочкамі (калі б кажан ударыўся ў дроцік, званок зазваніў бы), пастаўлены розныя перашкоды з дрэва, празрыстага шкла. І цікава, што калі нават заклеілі кажану вочы — ён не страціў сваёй спрытнасці і арыентацыі.

**Спрытнасць у кажана можна адабраць, але заклейваючы не вочы, а... вушы.**

**Аказваецца, што аснова начной арыентацыі кажаноў — гэта іх слых.**

**Орган слыху ў кажаноў так добра развіты, што рэагуе нават на неадчуваемыя людзьмі у л ь т р а г у к і (вельмі слабыя гукі).**

Падчас лёту кажан выдае з сябе ультрагукавыя хвалі ў выглядзе вострых кароткіх імпульсаў. Калі напатыкае на сваёй дарозе які - небудзь прадмет, ультрагукавыя імпульсы адбіваюцца ад яго і вяртаюцца да кажана, як пэўнага роду рэха. Кажан адчувае гэтае рэха і, такім чынам, ведае, ці наперадзе ёсць перашкода. А так як ультрагукі могуць адбівацца нават ад вельмі дробных прадметаў, то і спрытнасць кажана ў лёце перастае быць таямніцай.

# КАЛЯНДАР БУДУЧЫНІ

Каляндар — паняцце не новае. Каляндары існавалі ўжо ў глыбокай старажытнасці. Толькі што розныя народы мелі розныя каляндары. У многіх краінах Азіі (Турцыя, Іран, Ірак, Афганістан), дзе распаўсюджана магаметанская рэлігія, яшчэ дагэтуль гады лічацца ад «ўцёку Магамета з Медыны ў Мекку» — 622 г. нашай эры.

Каляндар, якім мы карыстаемся, вядзе свой пачатак ад рымскага каляндара. Рэфарматарам старога рымскага каляндара быў рымскі імператар Юлій Цэзар.

**Сутнасць гэтай рэформы заключалася ў тым, што ў аснову каляндара было пакладзена гадавое перамяшчэнне сонца паміж звёздамі. Ад гэтага часу год налічваў 365 дзён і 6 гадзін і быў падзелен на 12 месяцаў. Счот па гэтаму каляндару быў званы юліянскім і пачаўся 1 студзеня 45 г. да нашай эры.**

Але з часам аказалася, што юліянскі каляндар адстае ад астранамічнага года. У кожныя 128 год розніца вырастала да цэлых сутак. Да другой паловы XVI ст. розніца вырасла да 10 сутак. І таму 1 сакавіка 1582 года рымскі папа Грыгорый XIII выдаў указ, які ўводзіў новы каляндар. А склаў гэты новы каляндар італьянскі лекар і астраном Алойзій Лілio.

Каляндар, уведзены Грыгорыем XIII, (грыгарыянскі) ліквідаваў лішнія 10 дзен і быў дакладнейшы. Замацаваўся ён у большасці цывілізаваных краін.

**Грыгарыянскі каляндар з'яўляецца найбольш дакладным з усіх існуючых сістэм летазлічэння. Аднак і ў ім ёсць рад недахопаў.**

1. Даўжыня месяцаў розная — ад 31 да 28 дзён.

2. Месяцы рознай даўжыні чарадуюцца без парадку.

3. Кварталы маюць розную лічбу дзён — ад 90 да 92.

4. Дні нядзелі не супадаюць з пастаяннымі датамі, часта пачатак тыдня ўпадае ў адзін месяц, канец — у другі.

Іншыя недахопы — гэта: незвязанасць пачатку года з астранамічнымі з'явамі, устарэўшыя назвы месяцаў.

Недахопы нашага каляндара ствараюць клопаты ў рабоце плануючых і фінансавых органаў. Таму нічога дзіўнага, што ў апошні час актуальным стала пытанне аб рэформе сучаснага каляндара.

**Ужо ў 1923 годзе ў Жэневе пры Лізе Народаў быў створан міжнародны «Камітэт па рэформе каляндара», які ставіў сваім заданнем падрыхтаваць вечны каляндар. Пытанне гэтае абмяркоўвалася ў 1955 годзе на Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.**

**Шматлікія праекты новага каляндара можна падзяліць на дзве групы. У адных з іх год падзяляецца на 13 месяцаў, у другіх — на 12.**

Асаблівасць каляндара, у якім год дзеліцца на 13 месяцаў, такая: Год дзеліцца на 13 месяцаў, па 28 дзён у кожным. Месяц дзеліцца на 4 тыдні. Усе месяцы пачынаюцца ў нядзелю і канчаюцца ў суботу. У кожным месяцы 24 рабочыя дні і 4 нядзелі.

Праект гэты мае шмат прыхільнікаў, але і праціўнікаў. Праціўнікі ўказваюць на вельмі істотны яго недахоп. Па іхняму, увядзенне 13-га месяца выкліча многа блытаніны ў злічэнні розных гістарычных дат. І дзеля гэтага бадай лепшым будзе каляндар 12-месячны.

Ён будзе выглядаць так.

1. Год дзеліцца на 2 паўгоддзі па 182 дні і чатыры кварталы па 91 дню ў кожным.

2. Кварталы складаюцца з трох месяцаў, пры чым першы месяц квартала мае 31 дзён, апошнія па 30 дзён.

3. Першая дата кожнага года падае на нядзелю.

4. Так як лік дзён у квартале (91) дзеліцца на лік дзён у тыдні (7), то кожны квартал мае 13 тыдняў.

5. Квартал пачынаецца з нядзелі і канчаецца суботай.

6. У кожным месяцы 26 рабочых дзён.

**Чатыры кварталы па 91 дню складаюць 364 дні, таму для згоды каляндарнага года з прыроднай велічынёй года ўстаўляюцца Дзень Міру і Дружбы народаў кожны год і Дзень высакоснага года ў высакосных гадах (таксама і ў 13-месячным календары).**

**Першы ўстаўляецца паміж апошнім днём снежня і першым днём студзеня. Другі паміж чэрвенем і ліпенем.**

**Гэты праект каляндара для нас больш выгадны і менавіта ён атрымаў адабрэнне ў Эканамічным і Сацыяльным савеце ААН.**

Магчыма, што новы каляндар пачне прымяняцца ва ўсім свеце ўжо з будучага года.

Толькі для закаханых.

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

**Я замужняя. Маё сужыццё з мужам было б нядрэнным, каб... Вось гэтае каб. А гэтае «каб» заключаецца ў тым, што я люблю пяшчоты, люблю паказаць, што мой муж мне дарагі. Муж наадварот — далёкі ад такіх жэстаў. І на гэтым паміж намі вельмі часта даходзіць да «ціхіх» канфліктаў. Ціхіх, бо мы не спрачаемся, толькі я замыкаюся ў сабе, зразумела, з крыўдай у сэрцы. Муж таксама маўчыць (ён наогул негаварлівы). Часам — увогуле перастаю верыць, што ён мяне любіць. Не раз шукаю выйсця, сябе лаю, ды вынікаў добрых няма.**

**Што ты на гэта скажаш, Сэрцайка?**

**АДКАЗ:**

**Цярпі і чакай, абавязкова чакай, што сітуацыя зменіцца ў тваю карысць.**

**СЭРЦАЙКА**



## БЕЛЫ ЛОЦМАН*

Ля паўночных берагоў Новай Зеландыі ёсць вельмі небяспечныя рыфы. Нямала караблёў разбілася аб іх вострыя вершаліны.

Летам 1871 года матросы карабля «Брынл», які прабіраўся ў тумане сярод грозных скал, нечакана ўбачылі велізарнага белага дэльфіна*). Ён плыў уперадзе карабля, як бы ведучы яго за сабой, а схаваўся, калі скалы скончыліся. З таго часу маракі, якія тут праязджалі, заўсёды спатыкалі незвычайнага лоцмана. І цікава, што пад аховай дэльфіна — лоцмана ніводзін карабель не разбіўся аб скалы.

Доўгі час праводзіў белы дэльфін караблі, пакуль нейкі п'яны пасажыр не раніў яго выстралам з ружжа. Толькі праз некалькі тыдняў дэльфін з'явіўся ізноў.

Пасля гэтага выпадку ўрад Новай Зеландыі выдаў спецыяльны ўказ у абарону дэльфіна. Пад аховай закона дэльфін працягваў сваю «службу» да 1912 года.

Што прымушала белага дэльфіна на працягу 40 год праводзіць караблі — так і засталося загадкай.

---

*) **лоцман** (ад гал. loodsman) — спецыяліст па праводцы караблёў, асабліва ў небяспечных месцах.

*) **дэльфін** — марскі звер, падобны да кіта.

## ВОУЧАЕ ВЫХАВАННЕ

У 1956 годзе ў Паўночнай Індыі ў джунглях людзі ўбачылі каля ручая двух ваўкоў і з імі дзіўную істоту з чалавечай галавой. Ваўкі ўцяклі, а іх менш рухавы спадарожнік быў злоўлены. Ён кусаўся, з роту ў яго вырываліся незразумелыя гукі, якія нагадвалі адрывістае рохканне, але не было сумнення ў тым, што гэтая істота з'яўляецца дзіцянём.

Адзічэлага хлопчыка пазналі па шраму на галаве сваякі, жыхары вёскі Агра. Аказалася, што гэта васьмігадовы Парасрам, якога шэсць год таму назад выкраў з вёскі воўк.

Індыйскія вучоныя і медыкі, якія даследавалі Парасрама, лічаць, што гэта адзін з найцікавейшых выпадкаў выхавання дзіцяці ваўкамі.

## ПАРАДЫ МАЦІ

**ХОЧАШ, КАБ ТВАЁ ДЗІЦЯ БЫЛО ЗДАРОВЫМ**

Ні ў якім разе не кармі яго сілком. Не адцягвай ад яды размовамі, чытаннем, гульнёй. Заахвочвай жаданне самастойна есці.

Не дазваляй размазваць страву па талерцы, рассоўваць талеркі, гуляць лыжкай. Прывучай перад ядой старанна мыць рукі. Жаваць страву з закрытым ротам. Есці толькі за сталом. Правільна карыстацца ложкай, відэльцам і нажом.

Абавязкова ўважліва сачы за станам здароўя дзіцяці. Дакладна прытрымлівайся парад доктара. Своечасова пачні прыкорм. Кармленне праводзь у пэўныя гадзіны. Новыя стравы ўводзь паступова, але сістэматычна і настойліва.

Памятай, дзецям нельга есці з агульнай талеркі, карыстацца агульным кубкам і лыжкай. Перш чым есці фрукты, ягады, трэба абавязкова іх вымыць.

Не злоўжывай тлушчамі для самых маленькіх. Тлушчы звычайна выклікаюць у дзяцей страту апетыту, дрэннае самаадчуванне, рвоту, расстройства кішэчніка.

Калі ў страве няма вітамінаў і мінеральных солей — харчаванне дзіцяці не можа быць паўнацэнным: таму гародніна, зелень, плады, ягады абавязковы ў харчаванні дзяцей.

